Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

**Выдавец:** ПП «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

50 (558) 16 снежня 2010 года.
Кошт свабодны.




Photo ByMedia.net

# 19 ñíåæíÿ– âûáàðû Ïðýç³äýíòà Ðýñïóáë³ê³ Áåëàðóñü Çðàá³ ñâîé âûáàð!



Äç ì ³òðûé Âóñ, **óçí à÷àëüâàå âû äàâåöòâà “Òðû â³þ ì ”, áåñï àðòû éí û**

Ðûãîð Êàñòóñ¸¢, **í àì åñí ³ê ñòàðø ûí ³ ï àðòû ³ ÁÍ Ô**

Àëÿêñàí äð Ëóêàøýíêà, **äçåþ ÷û Ï ðýç³äýí ò**

Àëåñü Ì ³õàëåâ³÷, **ñòàðø ûí ÿ àðãêàì ³òýòà ï à ñòâàðýí í ³ ñàþ çà “Çà ì àäýðí ³çàöû þ ”**

Óëàäç³ ì ³ð Í ÿêëÿå¢, **ë³äàð ãðàì àäçÿí ñêàé êàì ï àí ³³“Ãàâàðû ï ðà¢äó”**



Â³òàëü Ðû ìàøý¢ñê³, **ñóñòàðø ûí ÿ àðãêàì ³òýòà ï à ñòâàðýí í ³ ï àðòû ³ “Áåëàðóñêàÿ õðû ñö³ÿí ñêàÿ äýì àêðàòû ÿ”**

ßðàñëà¢ Ðàìàí÷óê, **í àì åñí ³ê ñòàðø ûí ³ Àá’ÿäí àí àé ãðàì àäçÿí ñêàé ï àðòû ³**

Àíäðýé Ñàííí³êà¢, **ë³äàð êàì ï àí ³³ “Å¢ðàï åéñêàÿ Áåëàðóñü”**

Ì ³êàëàé Ñòàòêåâ³÷, **ë³äàð àðãêàì ³òýòà ï à ñòâàðýí í ³ Áåëàðóñêàé ñàöû ÿë-äýì àêðàòû ÷í àé ï àðòû ³ “Í àðîäí àÿ ãðàì àäà”**

Â³êòàð Öÿðý ø÷àíêà, **áû ëû ñòàðø ûí ÿ Áåëàðóñêàé í àðîäí àé ï àðòû ³, ñòàðø ûí ÿ ðàäû “Àñàöû ÿöû ÿ ì àëîãà ³ ñÿðýäí ÿãà ï ðàäï ðûì àëüí ³öòâà”**

---

**Ãëûáîöê³ ðà¸í**

## Åäçü íà÷û ì õî÷àø

■ **Станіслаў Раманчук.**

**Чамусьці цяпер сталі гаварыць, што беларусы сталі жыць значна лепш. Аднак калі буйныя гарады яшчэ растуць, развіваюцца, то пра глыбінку гэта не скажаш.**

Вось і ў Браслаўскім раёне напрыканцы года прыйшлося істотна скараціць інтэнсіўнасць аўтамабільных пасажырскіх перавозак з-за іх стратнасці і невялікага пасажырапатоку. У прыватнасці, тут былі скарочаны рэйсы адразу па чатырох маршрутах. З райцэнтра пасля абеду па пятніцах і па суботах ужо не дабярэшся да Друі, Урбанаў і Навінак. Ва ўсе дні тыдня, акрамя нядзелі, перастаў хадзіць аўтобус па маршруце Браслаў – Калеснікі. Увогуле, цяпер па суботах лепш сядзець дома, бо практычна перасталі заязджаць у гэты дзень з 4-га снежня аўтобусы прыгарадных маршрутаў да многіх аддаленых вёсак раёна. Рух яшчэ аднаго прыгараднага маршрута “Браслаў – Мілашкі” праз Далёкія раніцай і вечарам зусім быў адменены. Ды і ў астатнія населеныя пункты азёрнага края цяпер дабярэшся далёка не кожны дзень, як раней. Жыхарам глыбінкі зараз трэба ведаць назубок, у якія дні тыдня аўтобусы ў рэйсы зусім не адпраўляюцца. Вядома, такое становішча нязручнае для людзей, аднак дзірак у мясцовых бюджэтах хоць адбаўляй і праводзіца вось такая “аптымізацыя” прыгарадных перавозак насельніцтва.

**Øàðêî¢ø÷ûíñê³ ðà¸í**

## Íîâàå ïðûçíà÷ýííå øêîëû

■ **Чэслаў Якубовіч**

**Звычайна, калі ў абязлюдзеўшай вёсцы закрываецца школа, то гэты населены пункт вымірае яшчэ хутчэй у параўнанні з іншымі, дзе дзецям ёсць магчымасць вучыцца.**

А вось у Шаркоўшчынскім раёне знайшлі новае прымяненне дагэтуль добротнаму двухпавярховаму будынку былой базавай школы ў вёсцы Верацеі. Па праграме адраджэння вёскі тут зрабілі яшчэ адзін аграгарадок, і школьны будынак перацярпеў капітальную рэканструкцыю. Цяпер там, дзе раней гучалі звонкія дзіцячыя галасы, стаў дзейнічаць сацыяльна-культурны цэнтр. Пад адным дахам у ім размясціліся найбольш патрэбныя вяскоўцам аб'екты: аддзяленне сувязі, ФАП, пункт прыёмкі заказаў РКБА і нават кафэ. Для аматараў здаровага ладу жыцця адрамантавалі школьны спартзал, абсталявалі тут і трэнажорны зал. У адным з класаў размясціўся невялічкі этнаграфічны музей, актавая зала спатрэбіцца для правядзення розных культурна-масавых мерапрыемстваў і сходаў. На другім паверсе цэнтра культуры і адпачынку аграгарадка абсталяваны нават гасцінічныя пакоі для турыстаў, камандзіраваных. Акрамя таго, размяшчэнне столькіх аб'ектаў пад адным дахам дазволіць зменшыць выдаткі на іх эксплуатацыю.

---

**Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ ì** www.rp5.ru

| | чацвер 16.12.10 | | | | пятн. 17.12.10 | | | | сб. 18.12.10 | | | | нядз. 19.12.10 | | | | пн.20.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -11 | -11 | -10 | -11 | -14 | -14 | -12 | -13 | -14 | -12 | -9 | -8 | -8 | -9 | -9 | -11 | -14 | -14 | -12 |
| Ціск, мм | 745 | 742 | 741 | 741 | 742 | 741 | 743 | 743 | 743 | 741 | 740 | 739 | 738 | 736 | 737 | 738 | 738 | 738 | 738 |
| Вільготнасць, % | 90 | 90 | 80 | 92 | 87 | 85 | 81 | 88 | 81 | 83 | 84 | 94 | 88 | 88 | 84 | 92 | 86 | 87 | 82 |
| Вецер м/сек | З 1 | Ю 1 | Ю-З 2 | Ю-З 3 | Ю 4 | Ю 3 | Ю-В 3 | В 3 | В 3 | С-В 5 | С-В 6 | С-В 5 | С-В 3 | С-В 4 | С-В 3 | С 2 | З 1 | Ю 1 | Ю 3 |
| | | 08:30 | 15:40 | | | 08:30 | 15:40 | | | 08:31 | 15:41 | | | 08:32 | 15:41 | | 08:33 | 15:41 | |
| | | 12:32 | 02:55 | | | 12:51 | 04:09 | | | 13:17 | 05:24 | | | 13:52 | 06:38 | | 14:41 | 07:44 | |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Па прагнозах сіноптыкаў, сёлетняя зіма ў Беларусі па тэмпературных паказчыках будзе блізкай да кліматычнай нормы, хоць пачаўся снежань з моцных маразоў. Чарговы Усебеларускі сход, а ўслед за ім Афіцэрскі сход сталі даволі затратнымі перадвыбарнымі мерапрыемствамі адной асобы за дзяржаўны кошт. Прадстаячыя выбары павінны прадэманстраваць, ці даспелі беларусы выбраць іншае будучае для свайго народа, але зрабіць гэта няпроста пры такой колькасці кандыдатаў. Пасля Новага года, як паабяцалі ва ўрадзе, камунальныя плацяжы для насельніцтва краіны істотна не павысяцца.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Іспанія.** На канец года ўзровень беспрацоўя ў 4-й па велічыні эканоміцы ЕС дасягнуў 20 %, а дзяржаўны доўг краіны вырас да 63 % ВУП, узнік крызіс у будаўніцтве жылля.

**Казахстан.** Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка на прайшоўшым саміце АБСЕ падверг крытыцы шэраг момантаў яе дзейнасці, асабліва ў сферах дэмакратыі, правоў чалавека.

**Кітай.** Каб аслабіць пазіцыі амерыканскай валюты, на кітайскіх біржах пачалі рабіць гандлёвыя здзелкі ў расійскіх рублях, Кітай зніжае долю $ у гандлі з іншымі краінамі.

**Польшча.** Эксперты ўплывовага фонда FOR заявілі, што ўладам Беларусі неабходна пачынаць эканамічныя рэформы, інакш суседа чакае дэстабілізацыя і абвал эканомікі.

**ЗША.** Аналітыкі даследчай кампаніі iSuppli падлічылі, што ў 2009 годзе сярэднія даходы жыхара свету склалі 10,5 тысяч $ за год, афіцыйныя даходы беларусаў значна меншыя.

**Эстонія.** У краіне завяршаецца практычная кампанія па пераходу нацыянальнай валюты на EUR, у ноч на 1 студзеня ўсе ўклады ў банках аўтаматычна зменяцца на еўра па курсу.

**Швецыя.** Акрамя Інтэрпола краіна аб'явіла ў міжнародны вышук главу скандальнага вэб-сайта сакрэтнай інфармацыі WikiLeaks Джуліяна Ассанжа за згвалтаванне і распутства.

**Венгрыя.** У наступным годзе краіна вырашыла адкрыць прамы авіярэйс па маршруце Будапешт – Мінск, самалёт паміж дзвюма сталіцамі будзе лятаць 3 – 4 разы на тыдзень.

**Швейцарыя.** Краіна разглядае магчымасць адкрыцця свайго пасольства ў Беларусі, якую лічыць цікавым і вельмі перспектыўным партнёрам для далейшага развіцця адносін.

**Малдова.** На парламенцкіх выбарах большасць галасоў зноў разам набралі тры партыі, якія выступаюць за аб'яднанне з Румыніяй і за вывад расійскіх войск з Прыднястроўя.

**Германія.** Больш за паўтысячы рэйсаў прыйшлося адмяніць з-за моцнага снегападу, холаду ў аэрапортах Мюнхена і Франкфурта, на дарогах краіны, Францыі, Англіі было шмат ДТЗ.

**Расія.** Да радасці расіян, ФІФА даверыла краіне ўпершыню правесці ў 2018 годзе чэмпіянат свету па футболе, яшчэ праз 4 гады сусветнае першынство прыме Катар.

**Кітай.** Улады горада Нанкін адабралі зямлю цэнтра для бяздомных 1500 сабак і 200 катоў, які пабудавала Ха Веньцзін за сродкі ад продажу свайго дома, аўто і зберажэнні.

**Егіпет.** Эксперты ЮНЕСКА пачалі кансультацыі з егіпецкімі спецыялістамі па пытанні стварэння на месцы палаца легендарнай царыцы Клеапатры ўнікальнага падводнага музея.

**ААЭ.** Жыхар эміратаў 64-гадовы Даад Рахман стаў сусветным рэкардсменам-бацькам: 88 дзяцей ад 15 жонак– 50 хлопчыкаў і 38 дзяўчынак. Дзяржава дала ім 7 дамоў.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Цэнтрвыбаркам адхіліў прапанову шэрагу членаў ЦВК дазволіць назіральнікам знаходзіцца круглыя суткі на выбарчых участках падчас датэрміновага галасавання.

**Жодзіна.** На ўзроўні ўрада Беларусі вырашана выставіць акцыі БелАЗа для продажу, хутчэй усяго, на біржы ў Франкфурце (Германія), рынкавы кошт завода каля 1,2 млрд. $.

**Мінск.** З пачатку года ў Беларусі колькасць памерлых на 24 тысячы перавысіла тых, хто сёлета нарадзіўся, аднак з-за станоўчай міграцыі беларусаў памянела на 16 тыс. чалавек.

**Гродна.** Новы кіраўнік вобласці Сямён Шапіра вырашыў укараніць у справаводстве аблвыканкама беларускую мову, такі крок ухваліла кіраўніцтва ТБМ імя Ф. Скарыны.

**Мінск.** Да адмены датэрміновага галасавання, да публічнага падліку галасоў заклікалі ўдзельнікі ўпершыню за 16 гадоў праведзеных тэледэбатаў кандыдатаў у прэзідэнты.

**Салігорск.** Завісла пытанне з продажам Кітаю пакета акцый ААТ "Беларуськалій", які ацэнены ў 30 млрд. $, міжнародныя эксперты лічаць такую цану завышанай.

**Пінск.** Гарадскія ўлады прынялі рашэнне штогод праводзіць мерапрыемствы памяці загінуўшых на "Пінскдрэве" ў дзень аварыі і ўстанавіць памятны знак на месцы трагедыі.

**Мінск.** Буйная дацкая кампанія Carlsberq выкупіла кантрольны пакет акцый старэйшага бровара Беларусі ААТ "Піўзавод "Аліварыя", яе інвестыцыі сёлета перавысілі 1 млн. EUR.

**Святлагорск.** З пачатку года ў райцэнтры выявілі яшчэ 133 выпадкі заражэння гараджан ВІЧ-інфекцыяй, з іх 99 чалавек смяротна небяспечны вірус атрымалі палавым шляхам.

**Мінск.** На прадстаўленні ў абноўленым за 2 гады рамонту дзяржцырку зноў стала не дастаць білеты, нягледзячы на даволі высокі іх кошт, ад 25 да 75 тысяч рублёў.

**Брэст.** Да суровай зімы і моцных снегападаў у горадзе не былі гатовы, вуліцы хутка замяло, нават транспарт стаў, калі за некалькі гадзін выпала 171 % дэкаднай нормы снегу.

**Ждановічы.** На красавік прызначылі пробны пуск адсюль да станцыі Мінск-Пасажырскі сучаснай гарадской электрычкі "Stadler" (Швейцарыя), летам будуць 3 такія цягнікі.

**Мінск.** Для свабоднага доступу беларусаў, як заявіла прадстаўніцтва ЕС у РБ, каталог Еўрапейскай электроннай бібліятэкі дасягнуў 14 млн. кніг, газет, карцін, музыкі і фільмаў.

**Круглае.** Падчас пажару на льнозаводзе з-за неасцярожнага абыходжання з агнём загінуў 22-гадовы начальнік змены райаддзела МНС, моцны агонь знішчыў 1300 тон ільнотрасты.

**Мінск.** Да 2013 года, як паведаміў старшыня АБФФ Г. Навыглас, чэмпіянат Беларусі па футболе перайдзе на сістэму "восень-вясна", абласныя гарадыбудуць мець крытыя манежы.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Наваполацк.** Для транзіту венесуэльскай нафты на НПЗ па трубаправодзе Вентспілс-Полацк шанцаў мала, бо яго кантралюе расійская кампанія і яна ў стане забараніць пракачку.

**Віцебск.** За год у абласным цэнтры прыбавілася яшчэ каля 10 тысяч легкавых і грузавых аўтамабіляў, у часы пік горад, як і Мінск, ужо "задыхаецца" у аўтамабільных пробках.

**Расоны.** Міліцыя апаратыўна адшукала хуліганаў, якія збілі старшыню СВК "Клясціцы", пасля інцыдэнту кіраўнік пенсійнага ўзросту звольніўся з працы па стане здароўя.

**Віцебск.** На тэрыторыі вобласці сёлета толькі за 10 месяцаў ад розных злачынцаў пацярпелі 10797 жыхароў, кожнае другое злачынства здзейснілі раней судзімыя асобы.

**Обаль.** Пасля беларускага інвестфоруму ў Франкфурце-на-Майне мясцовы цагляны завод атрымае з Германіі 10 млн. USD інвестыцый на мадэрнізацыю сваёй вытворчасці.

**Дуброўна.** Падчас пажару на ферме ПСК "Калгас Каманіна" прыйшлося эвакуіраваць з палаючага памяшкання 200 цялят, ніхто з жывёл і людзей не пацярпеў, агонь патушылі.

**Віцебск.** Памочнік Прэзідэнта, галоўны інспектар па вобласці М. Дамашкевіч заявіў, што многім чыноўнікам трэба мяняць падыходы ў рабоце з людзьмі, махровы бюракратызм.

**Гарадок.** Пасля доўгага перапынку ў райцэнтры зноў запрацаваў фізкультурна-аздараўленчы комплекс, дзе птушкафабрыка зрабіла неабходны капітальны рамонт.

**Віцебск.** Горад атрымае значныя сродкі для правядзення ў 2014 годзе рэспубліканскіх "Дажынак", ёсць планы пасля гэтага ў многім абысці па лоску нават беларускую сталіцу.

**Полацк.** Да падрыхтоўкі святкавання 1150-годдзя старажытнага горада будзе створаны Рэспубліканскі аргкамітэт, самі юбілейныя мерапрыемствы пройдуць у 2012 годзе.

**Бешанковічы.** Праверка экалагамі ўмоў высечкі лесу вакол возера Бароўна ў Машканскім лясніцтве выявіла шматлікія парушэнні заканадаўства і проста здзекі над прыродай.

**Пастаўы.** Невядомыя маладыя вандалы паламалі частку агароджаў на цэнтральнай вуліцы райцэнтра, перакулілі урны для смецця, шмат пустак нарабілі ноччу ў гарадскім парку.

**Віцебск.** Праваабаронца Павел Левінаў дабіўся, каб ЦВК выключыў са складу ўчастковай выбарчай камісіі яе старшыню, які падрабіў дакументы аб сваім вылучэнні ад грамадзян.

**Браслаў.** Дырэкцыя нацпарка "Браслаўскія азёры" на зімні сезон упершыню ўстанавіла рэкордную норму адстрэлу 1700 дзікіх кабаноў, яны тут сталі ворагамі людзей і калгасаў.

**Наваполацк.** Рэктарат Полацкага ўніверсітэта вырашыў у 2011 годзе ўстанавіць помнік і сучасначай студэнтцы ў горадзе нафтахімікаў, дзе размешчаны большасць яго факультэтаў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**25** столькі медалёў рознай вартасці заваяваць у Лондане - такая задача пастаўлена кіраўніцтвам краіны, як заявіў днямі новы міністр спорту і турызму Беларусі Алег Качан. Сапраўды, планы зноў агучаны напалеонаўскія, бо гэта дазволіць краіне ўшчыльную наблізіцца да дзесяці мацнейшых зборных каманд свету, а беларускія атлеты павінны на летніх Алімпійскіх гульнях 2012 года прывезці адтуль ужо 5 залатых медалёў.

Такія дасягненні, магчыма, і выканальныя, паколькі напружаную падрыхтоўку да галоўных стартаў чатырохгоддзя зараз вядуць 353 мацнейшыя айчынныя спартсмены ў 31-м відзе спорту, прадстаўленым у англійскай сталіцы. Аднак нашым упраўленцам зноў быццам невядома, што такое планаванне ў свеце спорту найвышэйшых дасягненняў недарэчнае і нават шкоднае. На двух папярэдніх Алімпіядах 2004 года ў Афінах і на наступнай 2008 года ў Пекіне, успомнім, таксама ставілася задача заваяваць па 25 алімпійскіх узнагарод.

Вынікі ж выступленняў нашых атлетаў тады аказаліся куды больш сціплымі. На Гульнях у Грэцыі і Кітаі спачатку некалькі дзён запар нагогул беларусы аказваліся без узнагарод, і ў выніку прывезлі адтуль адпаведна 15 і 19 медалёў. У нас так заведзена: што б ні агучыў кіраўнік дзяржавы, падначаленыя адразу бяруць пад казырок. Раней нязменны беларускі лідар публічна ставіў такія задачы напярэдадні спаборніцтваў у Пекіне. "Папрасіў" ён аб гэтым і сёлета вясной, калі выступаў на Алімпійскім сходзе Беларусі: "25 - мы за гэту лічбу павінны ўчапіцца, гэта для нас святая лічба павінна быць".

Праўда, адпаведны патэнцыял для дасягнення такой мэты ёсць, і сёлета лепшыя нашы стралкі ўжо заваявалі ліцэнзіі на ўдзел у спаборніцтвах у Лондане. Дарэчы, у 2010 годзе на чэмпіянатах свету па алімпійскіх дысцыплінах беларусы змаглі выйграць 13 медалёў у 7 розных відах спорту. Таксама 11 медалёў членамі зборных каманд Беларусі было заваявана сёлета на чэмпіянатах Еўропы. Аднак, у кантынентальных топтурнірах еўрапейцы не ўсюды мацнейшыя.

На дадзены момант усе праграмы падрыхтоўкі беларускіх зборнікаў да Лондана-2012 распрацаваныя. Пачалася атэстацыя нацыянальных каманд і іх трэнераў у нашым Міністэрстве. Дзяржава ў гэту галіну сродкаў не шкадуе, стараецца выдзяляць колькі спатрэбіцца, з улікам сваіх магчымасцей. Цяпер памеры прызавых для айчынных алімпійцаў істотна павялічыліся. За "золата" на Алімпійскіх гульнях яго ўладальнік беларус атрымае 150 тысяч $. Адпаведна, за сярэбраны медаль ганарар установлены ў суме 75 тысяч, а за бронзавы – 50 тысяч долараў. Ёсць стымул імкнуцца да такіх вяршынь, куды ўзабрацца не так проста пры вялізнай канкурэнцыі.

Праца атлетаў не тое, што напружаная, яна на мяжы чалавечых сіл і часта забірае ўсё здароўе, робіць жыццё ў старасці разбітым хваробамі і цяжкім для цела пасля атрыманых у маладосці траўм і падзенняў. Вось чаму цяпер зацвердзілі новае палажэнне аб даволі высокіх імянных стыпендыях для лепшых спартсменаў, членаў зборных каманд Беларусі. У нашай краіне пры больш сціплых магчымасцях, чым у багацейшых дзяржавах свету, ёсць фінансавыя праблемы нават з пэўнымі камандамі (напрыклад, жаночая зборная РБ па баскетболе) і з асобнымі атлетамі па інвентары, правядзенні збораў і па фармакалогіі.

Аднак іх пастараюцца з цягам часу вырашыць. Пакуль жа не толькі ў сталіцы, але і ў абласных цэнтрах і ў Бабруйску, дзе дзейнічаюць прадстаўніцтвы Нацыянальнага алімпійскага камітэта, адкрыліся прэсцэнтры "Лондан-12". Да пачатку наступнай Алімпіяды засталося не так шмат часу. Між тым, медальны план для беларускіх спартсменаў, магчыма, прыйдзецца скарэкціраваць. Справа ў тым, што аб медалях задумаліся рана, бо для таго, каб паехаць у англійскую сталіцу, яшчэ трэба заваяваць алімпійскія ліцэнзіі і прабіцца ў групу мацнейшых на адборачных спаборніцтвах.

З кожным годам на міжнародных турнірах перамагаць становіцца ўсё цяжэй. За мяжой таксама актыўна развіваюць спорт, а сучасных стадыёнаў, лядовых і іншых арэн пабудавана значна больш, чым у нас. Ды і аматараў здаровага ладу жыцця больш пры высокім узроўні жыцця і паўсядзённага дабрабыту.

# Хвароба XXI стагоддзя

**Дз.А. Марціновіч,**
*псіхолаг ТЦСАН.*

У 1981 г. Цэнтрам па кантролі за хваробамі ў Атланце (штат Джорджыя, ЗША) упершыню былі атрыманы звесткі пра захворванне незвычайнай пнеўманіяй. Усе факты сведчылі пра нейкае новае захворванне, у аснове патагенезу якога ляжыць прыгнечанне імунітэту, асабліва клеткавага, што атрымала пацверджанне пры імуналагічных даследаваннях. З 1986 г. па рашэнні падкамітэта Міжнароднага камітэта па таксанаміі вірусаў ён атрымаў назву вірус імунадэфіцыту чалавека (ВІЧ).

Інфекцыя ВІЧ дзівіць стракатасцю і шматстатнасцю клінічных варыяцый - ад бессімптомнай да выяўленых формаў з агрэсіўнымі інфекцыямі і рознымі наватворамі. З улікам рэкамендацыі СААЗ, дадзеных літаратуры і ўласнага досведу для практычных мэт умоўна можна вылучыць 5 стадый інфекцыі ВІЧ: пачатковую, бессімптомную, генералізаваную лімфадэнапатыю, асацыяваны комплекс, СНІД - фінал інфекцыі ВІЧ - выяўляецца смяротнымі ўскладненнямі ў выглядзе цяжкіх наватвораў.

Распазнанне інфекцыі ВІЧ, асабліва на ранніх этапах, вельмі цяжкае. Эфектыўныя метады лячэння інфекцыі ВІЧ яшчэ не знойдзены. Увагу неабходна засяродзіць на прафілактыцы інфекцыі. У санітарна-асветніцкай працы варта адкрыць шляхі перадачы захворвання, асоба падкрэсліўшы, што асноўны з іх - палавы; паказаць згубнасць бязладнага палавога жыцця і неабходнасць выкарыстання прэзерватываў, асабліва пры выпадковых кантактах. Людзям, якія ўваходзяць у групы рызыкі, рэкамендуюць не ўдзельнічаць у донарстве, а інфікаваным жанчынам-устрымацца ад цяжарнасці; важна перасцерагчы ад карыстання агульнымі зубнымі шчоткамі, брытвамі і іншымі прадметамі асабістай гігіены, якія могуць быць забруджаны крывёй і іншымі біялагічнымі вадкасцямі інфікаваных. Разам з тым заражэнне немагчыма паветрана-кропельным шляхам, пры побытавых кантактах і праз прадукты харчавання.

**Праведзенае напачатку снежня анкетаванне па г. Глыбокае сярод навучэнцаў дзяржпрафліцэя і сярэдняй школы №3 паказала, што каля 90% удзельнікаў маюць нізкі ўзровень ведаў пра такую праблему, як ВІЧ.**

Эпідэмічная сітуацыя па ВІЧ-інфекцыі ў Рэспубліцы Беларусь характарызуецца як нездавальняючая. Пераважная большасць ВІЧ-інфікаваных складаюць маладыя людзі рэпрадуктыўнага ўзросту, выяўлена больш за 6000 ВІЧ-інфікаваных, 58% складае моладзь ва ўзросце ад 15 да 24 гадоў.

Праведзенае напачатку снежня 2010 года анкетаванне па горадзе Глыбокае сярод навучэнцаў дзяржпрафліцэя і сярэдняй школы №3 паказала, што каля 90% удзельнікаў маюць нізкі ўзровень ведаў пра такую праблему, як ВІЧ. Вынікі такога даследавання аказаліся не толькі несуцяшальнымі, але і вельмі дзіўнымі, бо інфармацыі такога роду ўтрымліваецца велізарная колькасць у сродках масавай інфармацыі: прэсе, тэлеперадачах, радыё, інтэрнэце і г.д. Атрымліваецца, што нашы маладыя людзі не лічаць патрэбным вучыцца на чужых памылках, а жадаюць самі перажываць невядомыя для іх з'явы ў жыцці. Па прынцыпе, маўляў, пакуль не паспрабую–не паверу, але забываюць гэтыя разумнікі і разумніцы толькі адно, што не ўсе паспрабаваныя забароненыя плады не маюць наступстваў. Таму я хацеў бы пажадаць кожнаму з вас не разменьваць сваё жыццё на дробязі і на неабдумнае баўленне часу, бо ў жыцці гэтулькі ўсяго цікавага, што вечнасці не хопіць усё паспець зрабіць, а галоўнае, гэта ў нашых сілах паставіць бар'ер на шляху «хваробы XXI стагоддзя», сфармаваўшы духоўныя і маральныя каштоўнасці.

# Паслядоўнікі Аляксандра Кузняцова

**Я. Самсонаў**

Вазьму на сябе смеласць сказаць (і думаю, са мной пагадзяцца амаль што ўсе аматары грэка-рымскай барацьбы краіны), што ў назве 33-га Рэспубліканскага турніру па грэка-рымскай барацьбе, які праходзіў 10 – 11 снежня 2010 года ў спартыўнай зале Глыбоцкай ДЮСШ, недастае аднаго ўдакладнення– «на прызы адзінаццаціразовага чэмпіёна Беларусі Аляксандра Кузняцова».


Аляксандр Кузняцоў

Гэта ён 33 гады таму назад заснаваў на Глыбоччыне (па назве тых часоў) класічную барацьбу, гэта ён быў адным з галоўных заснавальнікаўарганізатараў першага і ўсіх наступных турніраў, гэта ён, аддаўшы цалкам усяго сябе спорту, выхаваў некалькі пакаленняў выдатных спартсменаўбарацьбітоў, імёны якіх ззялі на самым высокім гарызонце спартыўнай славы, ды ў рэшце рэшт ці існаваў бы такі турнір увогуле і ці дасягнула б такіх спартыўных поспехаў грэка-рымская барацьба ў нашай краіне, калі б не Аляксандр Іванавіч.

Возьмем, напрыклад, лёс вольнай барацьбы ў нашым рэгіёне, аматарам якой у свой час з'яўляўся аўтар гэтых радкоў. Былі добрыя трэнеры, вечная памяць Віктару Станіслававічу Радзіеўскаму, і цяпер яшчэ жыве Мар'ян Мячаслававіч Місевіч, ды і, як кажуць, «стартавы капітал» быў нашмат лепшы, чым у «класікаў». А вось надалей не знайшлося паслядоўніка, энтузіяста-вынаходніка «самародкавальнякоў».



Таму наступны турнір мае права называцца «34-ы Рэспубліканскі турнір па грэка-рымскай барацьбе на прызы А.І.Кузняцова». Гэта надасць турніру значна большы імідж, вартасць, надасць кожнаму ўдзельніку сіл і імкнення да перамогі. Хто б з юнакоў не захацеў бы здзейсніць спартыўны подзвіг А. Кузняцова.

Што тычыцца прайшоўшага 33 Рэспубліканскага турніра па грэка-рымскай барацьбе, то ў ім прынялі ўдзел звыш сотні спартсменаў з Мінска, Віцебска, Маладзечна, Шуміліна, Талочына, Гарадка, Глыбокага, гарпасёлкаў Обаль, Чысць.

Сярод гасцей былі заслужаныя трэнеры Рэспублікі Беларусь Анатоль Новік і Анатоль Касаўцаў – трэнер прызёра Алімпійскіх гульняў у Пекіне Міхаіла Сяменава.



Глыбоцкая школа грэка-рымскай барацьбы была прадстаўлена 40 выхаванцамі траіх трэнераў: Віктара Бартко, Віталя Мацкевіча (ДЮСШ) і Андрэя Дзікавіцкага (СК «Прафсаюзы» г. Віцебск). Сярод глыбоцкіх барцоў было пяць прызёраў першынства Рэспублікі (В.Плюта, А.Салавей, А.Шчарбіцкі) і каля дзесяці пераможцаў абласных спаборніцтваў. Дарэчы, сярод 35 школ Рэспублікі, Глыбоцкая ДЮСШ за 2010 год займае 8 месца.

Два дні доўжыліся ўпартыя, напружаныя спаборніцтвы. Была радасць перамог і горач пройгрышу паядынка, новыя знаёмствы і сапраўднае спартыўнае сяброўства. А гэта і ёсць складаныя асноўнай мэты турніру – павышэнне майстэрства юных спартсменаў і папулярызацыя грэка-рымскай барадзбы.

# Глыбоцкія мяшчане ў першай палове XIX стагоддзя

**Аляксандр Івашчонак,**
*бакалаўр гісторыі Ягелонскага Універсітэта.*

Хацелася б распавесці пра жыхароў кармеліцкага мястэчка Глыбокага ў трыццатыя гады XIX ст. (не блытаць з мястэчкам графа Вітгенштайна, што ляжыць на поўдзень ад ракі Бярэзвіцы).

На самым пачатку варта ўзгадаць, што сучасны горад Глыбокае складаецца з двух розных прыватных мястэчкаў: Глыбокага Корсакаў і Глыбокага Зяновічаў. У XVII ст. Глыбокае Корсакаў перайшло да манахаў кармелітаў і сталася Глыбокім Кармеліцкім, а Глыбокае Зяновічаў перайшло спачатку да Радзівілаў, а ў XIX ст.– да Вітгенштайнаў і сталася Глыбокім Вітгенштайнаў. Былі гэта два розныя мястэчкі, якія калісь ляжалі нават ў розных ваяводствах – Глыбокае Корсакаў у Полацкім, а Глыбокае Зяновічаў у Віленскім, а мяжой была рэчка Бярэзвіца. Мястэчка кармелітаў было значна меншае, чым мястэчка Вітгенштайнаў, і жыло ў ім значна менш людзей. Сталася так, бо кармеліты не вельмі стараліся развіваць гандаль, а на дадатак забаранілі габрэям сяліцца ў сваі горадзе. Затое Радзівілы дазволілі габрэям сяліцца ў сваім мястэчку, і гэта прывяло да таго, што пад канец XVIII ст. у Радзівілаўскім Глыбокім габрэяў было ўтрая больш, чым мясцовага насельніцтва.

Пад расейскім панаваннем закон змяніўся, і габрэі маглі сяліцца і ў кармеліцкім Глыбокім, бо менавіта габрэі выдавалі царскім уладам усіх ўдзельнікаў паўстання Тадэвуша Касцюшкі.

Таму ўжо ў 30 гг. XIX ст. сярод жыхароў кармеліцкага Глыбокага можам сустрэць габрэяў.

Хацелася б прадставіць ўсіх гаспадароў кармеліцкага Глыбокага з 1830 года – мяшчан і вольных людзей:

Opisanie mieszkańców i ludzi wolnych w miasteczku karmelitańskim Głębokie z roku 1830:
Апісанне жыхароў і вольных людзей ў кармеліцкім мястэчку Глыбокае



| | | |
|---|---|---|
| Ulica Połocka. – | | |
| Alexander Juszkiewicz – „ | 1. | 60. |
| Leyba Matysowicz – „ – | 1. | 18½ |
| Andrzey Serwatka – „ | 3. | 20. |
| Hryszka Staluta – „ – | 1. | 21. |
| Plac pusty do Skarbu należy | „ | „ |
| Mowsza Leybowicz – „ – | 1. | 52. |
| Eliasz Janowski – „ – | 3. | 70. |
| Pustop. – N. Filipowicz trzyma | 3. | 77. |
| Stefan Grumidź – . . | 1. | 31. |

**Ulica Wielka - вуліца Вялікая:**

1. Abram Izraelowicz - Абрам Ізраэлёвіч
2. Apolonia Wojakowska - Апалонія Ваякоўская
3. Krystyna Błazewiczowa - Крыстына Блазэвічава
4. Zachariasz Beysarowicz - Захар Бэйсаровіч
5. JPP Aptekarzowci Zodwoyniówci - Аптэкары Жадвойны
6. Boruch Rubinowicz - Барух Рубіновіч
7 Juk Judelowicz - Юк Юдэлёвіч

**Ulica Wileńska - вуліца Віленская :**

1. Leyba Azikowicz - Лейба Азіковіч
2. Wiktoria Kutanowiczowa - Вікторыя Кутановічава
3. Piotr Boratyński - Пётр Баратыньскі
4. Franciszek Filipowicz - Францішак Філіповіч
5. Piotr Skokowski - Пётр Скакоўскі
6. Sima Mowszowicz - Сіма Моўшавіч
7. Mikołaj Lednik - Мікалай Леднік
8. Jakub Siwko - Якуб Сіўко
9. Jacek Bohdanowicz - Яцак Багдановіч
10. Mikołaj Pirejko - Мікалай Пірэйка
11. Josiel Chaimowicz - Ёсел Хаімавіч
12. Adam Szlomowicz - Адам Шлёмавіч
13. Józef Paszkiewicz - Юзаф Пашкевіч
14. Franciszek Pilecki - Францішак Пілецкі
15. Stanisław Makasewicz - Станіслаў Макасэвіч
16. Szepszel Woronowicz - Шэпшэль Вароновіч
17. Ludwik Pilecki - Людвік Пілецкі
18. Leon Sieluta - Лявон Сялюта
19. Jan Krywiczanik - Ян Крывічанік
20. Paweł Dusz - Павел Душ
21. Wulff Aronowicz - Вульф Арановіч
22. Bonifacy Danilewicz - Баніфацы Данілевіч
23. Leyba Mowszowicz - Лейба Моўшавіч
24. Maciej Kowalski - Мацей Кавальскі
25. Stanisław Jajeczko - Станіслаў Ячечка

**Ulica Rynkowa - вуліца Рыначная :**

1. Efraim Leyzerowicz - Эўфраім Ляйзэровіч
2. Michał Chalecki - Міхал Халецкі
3. Szymon Dusz - Сымон Душ
4. Eufrozyna Filipowiczowa - Эўфрасіньня Філіпавічава
5. Josiel Leybowicz - Ёсель Лейбавіч
6. Wincenty Charkiewicz - Вінцэнты Харкевіч
7. Andrzej Karuza - Андрэй Каруза
8. Łukasz Siwicki - Лукаш Сівіцкі
9. Wincenty Ciechanowicz - Вінцэнты Цехановіч
10. Wdowa Rusakowa - Удава Русака
11. Paweł Herman - Павел Герман
12. Kazimierz Rusak - Казімір Русак
13. Michał Tarkowszczyk - Міхал Таркоўшчык
14. Jan Romanowski - Ян Раманоўскі
15. Stanisław Iwanowski - Станіслаў Іваноўскі
16. Karol Paszkowicz - Караль Пашковіч
17. Tomasz Paszkowicz - Тамаш Пашковіч
18. Ignacy Miraszko - Ігнацы Мірашка
19. Borys Chroł - Барыс Хрол
20. Kazimierz Karuza - Казімір Каруза
21. Mikołaj Łozowski - Мікалай Лазоўскі
22. Andrzej Kijko - Андрэй Кійка
23. Symon Dziemidowicz - Сымон Дземідовіч
24. Prokopowa Baranowa - Пракопава Баранава
25. Łukasz Baran - Лукаш Баран
26. Mikołaj Dziemidowicz - Мікалай Дземідовіч
27. Mikołaj Sznitka - Мікалай Шнітка
28. Karol Dziemidowicz - Караль Дземідовіч
29. Symon Ławrynowicz - Сымон Лаўрыновіч
30. Kiwa Charjowicz - Ківа Хар'ёвіч
31. Stefan Zimnicki - Стэфан Зімніцкі

**Ulica Połocka - вуліца Полацкая:**

1. Aleksander Juszkiewicz - Аляксандр Юшкевіч
2. Leyba Matysowicz - Лейба Матысавіч
3. Andrzej Serwatka - Андрэй Сэрватка
4. Hryszka Staluta - Грышка Сталюта
5. Mosza Leybowicz - Моша Лейбавіч
6. Eliasz Janowski - Эльяш Яноўскі
7. Stefan Grumudź - Стэфан Грумудзь
8. Jan Lednik - Ян Леднік
9. Roman Marcinkiewicz - Раман Марцінкевіч
10. Mateusz Urbanowicz - Матэвуш Урбановіч
11. Sylwester Łatunowicz - Сыльвестр Латуновіч
12. Onufry Baran - Ануфры Баран
13. Jan Siwko - Ян Сіўко
14. Paweł Baran - Павел Баран
15. Aleksander Jacznik - Аляксандр Ячнік
16. Piotr Dusz - Пётр Душ
17. Tadeusz Kurylonek - Тадэвуш Курылёнак
18. Jakub Karuza - Якуб Каруза
19. Mikita Majsiejonek - Мікіта Майсіёнак
20. Paweł Zacharjaszonek - Павел Захар'яшонак
21. Kazimierz Krawczonek - Казімір Краўчонак
22. Ludwik Saulicz - Людвік Сауліч

Усяго ў кармеліцкім Глыбокім жыло 166 мужчын і 139 жанчын - разам 305. Вышэй пададзены спіс прадстаўляе толькі гаспадара дому, а не ўсіх жыхароў. Кожная хата прыблізна месціла каля 5 чалавек.

На пачатку XIX ст. кармеліцкае Глыбокае мела Рынак і 4 вуліцы:
вул. Рыначная
вул. Вялікая
вул. Віленская
вул. Полацкая

Глыбачане, як і ўсе іншыя жыхары прыватных мястэчак, мелі і свае павіннасці:

**1.** Талака.

**2.** З кожнай хаты кожны год адна жанчына павінна была адпрацаваць 4 дні на жнівах на кармэлітаньскім полі.

**3.** З кожнай хаты кожны год адзін мужчына павінен быў адпрацаваць зімой падчас ламання лёду і звязці яго да кармеліцкай лядоўні.

**4.** Чынш і падаткі для цара, якія трэба было аддаць кармэлітам.

**5.** Ссыпка.

**6.** Калі хтосьці быў такі бедны, што не мог заплаціць царскага чыншу й падатку, то кляштар кармелітаў плаціў за яго.

Узамен трэба было адпрацаваць гэты чынш і падатак ў маёнтку кармелітаў згодна з падпісанай ўмовай.

**Як відаць, гісторыя Глыбокага вельмі цікавая!**



**Панарама кармеліцкага Глыбокага**

# Вы спрашиваете: «Где я возьму деньги на экономику?» – отвечаю...

**Президентская гонка в самом разгаре, претенденты продолжают доводить до избирателей свои идеи и программы. И хотя список проблем в стране гигантский, большинство всё же волнует главное: цены, зарплаты, пенсии, рабочие места. То есть экономика. Об этом мы поговорим сегодня с кандидатом в Президенты Владимиром Некляевым.**

***- Владимир Прокофьевич, никто не сомневается, что при таком президенте, как вы, с культурой все будет в порядке. Но людей волнует базис – экономика. Не приведёт ли смена власти к тому, что пенсии и зарплаты упадут или перестанут выплачиваться?***

- Разумеется, зарплаты и пенсии никуда не денутся. Их платит не президент из собственного кармана. Это то, что люди сами заработали.

Более того, уже сегодня вполне реально повысить пенсии, потому что 469 тысяч рублей средней пенсии – это позор. Слишком много денег тратится на содержание государственного аппарата. Президент и его администрация обходятся государству в такие деньги, что за этот счёт можно было бы пенсию платить еще на 208 тысяч человек. Можно и поскромнее администрацию содержать, пока пенсионеры в такой нищете. В Дрогичине с 15 тысячами населения строится Ледовый дворец стоимостью в десятки миллиардов рублей. Кому он там нужен? Зачем такие расходы? Надо сначала хижины в деревнях отремонтировать, а уж потом строить дворцы.

Для того, чтобы повысить пенсии и пособия, деньги нужно заработать, – из воздуха они не возьмутся. Да и занимать у других больше нельзя. Поэтому надо обратить внимание на налоговую систему. И во всем мире знают, что чем сложнее налоговая система и выше налоги – тем хуже их платят. Белорусская налоговая система – одна из самых сложных в мире. Поэтому если радикально упростить эту систему и даже снизить некоторые налоги – денег в бюджете будет больше. Люди просто начнут их исправно платить.

***- А откуда у вас вообще экономические знания? Вы же не экономист, тогда кто пишет вам экономическую программу?***

- В моей команде работают отличные экономисты – в том числе и из государственных структур. По вполне понятным причинам они сегодня не хотят афишировать свои имена, опасаясь репрессий. Сам я последний год посвятил освоению новых знаний, в том числе и в области экономики. При этом я считаю, что президент не должен руководить реформами в отдельной отрасли и тем более командовать предприятиями. Президент должен после совета со специалистами и одобрения парламента реализовывать стратегические приоритеты в экономике.

***- Ну что ж, поговорим о стратегических приоритетах. 15 лет Беларусь жила на российские дотации. Халява закончилась – что дальше? Падение уровня жизни или есть волшебный рецепт?***

*Заканчэнне на стар. 11*

# Каб не было спакусы задарага набыць ялінку!

**■ І.К. Дубовік,**
*інжынер па ахове і абароне лесу.*

Паважаныя жыхары горада Глыбокае і раёна. Хутка Калядныя святы і Новы год. Глыбоцкі доследны лясгас прапануе насельніцтву і арганізацыям паслугі па продажы навагодніх елак. Пачынаючы з 20 да 31 снежня, акрамя 25 і 26 снежня, кожны можа набыць елку ў г. Глыбокае па адрасе: вул. Пралетарская д. 15 (кантора лясгаса), а таксама на елкавых кірмашах у г. Глыбокае: Цэнтральны пляц, мікрараён МКК, вул. Садовая (крама «Садовае кольца»), мікрараён вул.Міру і населеных пунктах раёна: Азерцы, Дзеркаўшчына, Узрэчча, Мосар, Капыльшчына, Удзела, Галубічы, Ліпава і г.п. Падсвілле. Кошт елкі навагодняй са склада лясгаса і лясніцтваў: вышынёй да 1 м – 7000 рублёў, ад 1 да 2 м –10000 рублёў, ад 2 да 3 м – 15000 рублёў, ад 3 да 4 м – 20000, ад 4 м да 5 м – 30000, 5 м і больш – 60000 рублёў.

Кошт елкі навагодняй па ганддлёвых кропках вышынёй да 1 м – 9000 рублёў, ад 1 да 2 м –13000 рублёў, ад 2 да 3 м – 20000 рублёў, ад 3 да 4 м – 28000, от4 м да 5 м – 40000.

Для арганізацый будуць у наяўнасці і больш высокія елкі. У лясніцтвах лясгаса таксама будзе арганізаваны продаж елкі.

У некаторых грамадзян узнікае спакуса самавольна ссекчы ў лесе ўпадабаную ялінку, аднак варта памятаць, што тым самым парушаецца існае заканадаўства, завошта прадугледжана матэрыяльная адказнасць. Паводле Кодэкса Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні, артыкул 15.22, за адну ялінку дыяметрам пня да 12 см трэба будзе выплаціць штраф у памеры да 1.750.000 рублёў, а таксама шкоду, нанесеную лясной гаспадарцы. Пры гэтым ялінкі канфіскоўваюцца. У выпадку немагчымасці забраць елкі (пашкоджаны лапкі), апроч шкоды будзе спагнана яе кошт 35000 рублёў.

Варта адзначыць, што з кожным годам узровень парушэння прыродаахоўнага заканадаўства змяншаецца. Будзем спадзявацца, што ў надыходзячым 2011 Новым годзе ахвотнікаў «дорага набыць навагоднюю прыгажуню» стане менш.



**Тэлефон даверу ўстановы «Віцебскае абласное ўпраўленне МНС Рэспублікі Беларусь» – 8 -(0212) 47-78-16**

# МНС інфармуе

**(на 13.12.2010)**

**Віцебская вобласць:**

**Пажараў – 1399;**
**Гібель людзей – 208, з іх дзяцей няма;**
**Урон – 2 936 300 000 рублёў;**

**Глыбоцкі раён:**

**Пажараў – 62;**
**Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;**
**Урон – 345 016 363 рублёў;**

# Мы заўсёды рады дапамагчы грамадзянам

*Любы грамадзянін можа патэлефанаваць ці прыйсці да інспектараў за тлумачэннем*

**■ А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Вось і наступіла доўгачаканая для рыбаловаў-аматараў зіма. На вадаёмах шмат рыбакоў, першыя ўловы цешаць і даюць надзею на далейшую добрую рыбалку.**

Аднак, нягледзячы на тое, што ў сродках масавай інфармацыі былі надрукаваны новыя Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, шматлікія рыбаловы ўсё яшчэ дапускаюць парушэнні. Чамусьці мяркуюць, што прыняты закон дзейнічае толькі на тэрыторыі Глыбоцкага раёна ці толькі на арандаваных вадаёмах, але ж закон адзіны на ўсёй тэрыторыі нашай краіны, і падпісваць жарліцы неабходна на любым вадаёме і ў любым раёне, дзе б рыбалоў ні знаходзіўся.

Толькі за 2 тыдні дзеяння новых Правіл супрацоўнікамі інспекцыі прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці больш за 10 чалавек, яшчэ больш папярэджаны вусна. Пры праверцы выканання Правіл рыбалоўства вельмі часта інспектары чуюць «я не бачыў ніякіх змен, не чытаў, мне ні хто не казаў», але, паважаныя рыбаловы, няведанне закона не вызваляе вас ад адказнасці, а яго выкананне–ваш абавязак. Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі толькі ў лістападзе месяцы правялі 2 «прамыя лініі» па тлумачэнні заканадаўства, любы грамадзянін можа патэлефанаваць ці прыйсці да інспектараў за тлумачэннем, мы заўсёды рады дапамагчы грамадзянам.

**Закон адзіны на ўсёй тэрыторыі нашай краіны, і падпісваць жарліцы неабходна на любым вадаёме і ў любым раёне, дзе б рыбалоў ні знаходзіўся.**

Для аматараў пакатацца па вадаёмах на рознага віду транспартных сродках (квадрацыклы, мапеды, аўтамашыны) хацелася б нагадаць, што гэтыя асобы будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці, штрафу ў памеры 20 базавых велічынь. Рухаючыся на тэхнічных сродках па возеры, Вы не толькі парушаеце прыродаахоўнае заканадаўства, але і падвяргаеце сваё жыццё і жыццё сваіх блізкіх небяспецы.

Хацелася б яшчэ раз нагадаць аб правілах бяспекі на паляванні, асабліва на загонных. Правілы тэхнікі бяспекі на паляванні, на жаль, пісаны крывёй саміх паляўнічых і іх строгае выкананне–залог захавання Вашых жыццяў. Не адзін здабыты звер не варты жыцця чалавека.

Як прыклад незахавання тэхнікі бяспекі на паляванні можна прывесці выпадак, які адбыўся на загонным паляванні на тэрыторыі Глыбоцкага раёна. Пры правядзенні законнага загоннага палявання адзін са стралкоў, звычайны сумленны паляўнічы, не пераканаўшыся, які ідзе звер, стрэліў і забіў рысь, якая занесена ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Зараз яго дзеянні разглядаюць у Глыбоцкім РАУС як незаконную здабычу дзікай жывёліны, занесенай ў Чырвоную кнігу. Паляўнічы ўжо выплаціў нанесеную прыродзе шкоду ў памеры 90 базавых велічынь, але хто пакрые маральную шкоду самому сабе, хто адновіць нервы паляўнічаму. Штогод у рэспубліцы з-за парушэння тэхнікі бяспекі на паляваннях гінуць дзясяткі паляўнічых, яшчэ больш атрымліваюць раненні.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі:2-86-70, маб. 897-23- 02, 890-55-28, 249-45-49.

# Зіма без небяспек

**■ А.А.Панфілка,**
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС, капітан унутранай службы.*

10 і 1 пытанне пра тое, як падрыхтаваць сябе і сваю хату да самай халоднай пары года.

На календары -- снежань, на вуліцы -- першыя маразы, а наперадзе -- чарговы сезон снегу, цёплых печак, навагодніх свят і падлёднай рыбалкі. Але ў гэтай бочцы мёду ёсць адна лыжка дзёгцю. Зіма -- гэта яшчэ і час патэнцыйных НЗ. Беларускія выратавальнікі не стамляюцца паўтараць, што найбольш частая іх прычына -- звычайная чалавечая няўважлівасць: забыліся выключыць абагравальнік, няправільна працеплілі печку ці выйшлі на тонкі лёд… Грэбаванне такімі правіламі бяспекі -- і вось няшчасце ўжо на парозе.

Менавіта таму ў пачатку зімы спецыялісты Міністэрства па надзвычайных сітуацыях хацелі б яшчэ раз нагадаць пра простыя правілы, якія дапамогуць вам перажыць халодную пару года без непрыемнасцяў, а калі НЗ усё ж здарыцца -- не апынуцца заспетым знянацку.




### Як падрыхтаваць печку да зімы?

Наступіўшыя маразы прымушаюць гарачэй цапліць печкі ў вясковых хатах. Але нават дасведчаныя вяскоўцы за лета часта забываюць ці проста бестурботна ігнаруюць галоўныя правілы карыстання печкамі ўзімку. А гэта можа скончыцца пажарам. Вось што раяць выратавальнікі:

-- Пабяліць комін. Гэта адно з асноўных патрабаванняў пажарнікаў да вясковых печак. Свежы пабел дае магчымасць хутка выявіць расколіны ў коміне і папярэдзіць магчымае НЗ.

-- Не перакаліваць печку. Лепш цапліць яе патроху некалькі разоў за дзень, чым адзін раз, але да мяжы.

-- Выратавальнікі настойваюць на тым, каб комін у печках чысціўся як перад ацяпляльным сезонам, так і падчас яго -- не радзей аднаго разу ў тры месяцы. Інакш там папросту можа загарэцца сажа.

-- Не выкарыстоўваць для распальвання печы лёгкаўзгаральныя і гаручыя вадкасці (бензін, газа) -- гэта вельмі небяспечна.

-- Каб пазбегнуць загарання драўлянай падлогі ад раскаленых вуглёў, якія выпалі, неабходна перад дзверцамі печы на падлозе прыбіць металічны перадтопачны ліст. Яго памер павінен быць не менш за 50х70 см.

-- Натуральна, ні ў якім разе нельга цапліць печы з комінам, які разбураецца. Але і самастойна займацца рамонтам выратавальнікі таксама не рэкамендуюць.

**Так, паводле рэкамендацый выратавальнікаў ,павінна ў ідэале выглядаць бяспечная печка ў прыватнай хаце.**

